Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

№ 17 (53) 26 красавіка–2 мая 1996 года

Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

# Чарнобыля сумны юбілей

## Падзеі тыдня

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый абвясціла 26 красавіка 1996 года Міжнародным днём памяці ў сувязі з дзесятай гадавінай аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

На зямлі Беларусі выпала тры чвэрці радыеактыўных выкідаў, магутнасць якіх ацэньваецца даследчыкамі ў сотню атамных бомб, скінутых на японскія гарады Хірасіма і Нагасакі паўсотні год таму назад.

Сусветная грамадскасць звярнулася да абмеркавання чарнобыльскіх праблем на канферэнцыі ў Вене, дзе выступіў і прэзідэнт РБ Лукашэнка. Тут жа афіцыйна было прызнана, што рак шчытападобнай залозы ў дзяцей– наступствы аварыі. Міжнародны валютны фонд паабяцаў падтрымку Украіне па яе праграме ліквідацыі наступстваў. Удзельнікі канферэнцыі заклікалі закрыць усе рэактары тыпу "чарнобыльскіх". Гэтыя ж праблемы абмяркоўваліся на сустрэчы сямёркі вядучых краін сусвету ў Маскве. Вялікія шанцы мае тая ж Украіна, якая ўдзельнічае на правах назіральніка ў гэтым саміце, на атрыманне кампенсацыі ў памеры каля 2 мільярдаў долараў. Беларусь чамусьці не ўдзельнічала ў гэтым мерапрыемстве. Ці азначае такое развіццё падзей, што ў нашага кіраўніцтва ёсць свой пункт гледжання на рашэнне праблемы, якое адрозніваецца ад меркавання прадстаўленых на сустрэчы краін?

Бо прэзідэнт Беларусі ў час паездкі па раёнах, якія пацярпелі ад катастрофы, заявіў аб новым падыходзе да яе рашэння. Асноўная ідэя заключаецца ў выкарыстанні асабістых рэсурсаў, а падтрымлівацца будуць толькі "чарнобыльскія" населеныя пункты, дзе людзі вырошчваюць хлеб і жывёлу. Што, па сутнасці, азначае выраджэнне гэтых зямель.

Такое рашэнне не здымае праблем забруджаных прадуктаў харчавання, паветра, якім дыхаем, заражэння праз скуру, актуальных і для Валожынскага, Бярэзінскага, Салігорскага раёнаў сталічнай вобласці.

Спробам разабрацца ва ўсім гэтым і будуць прысвечаны ўсе мерапрыемствы сённяшняга дня. Самай масавай абяцае быць акцыя "Чарнобыльскі шлях-96" у Мінску. Будзем спадзявацца, што яе не ператвораць у чарговае сутыкненне народа і ўлады. Людзі маюць права хаця б у такі дзень выказацца аб тым, што іх хвалюе ў нацыянальнай трагедыі.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Юбілей бяздзейнасці

***10 гадоў аварыі на Чарнобыльскай АЭС ніяк не абыдзеш. Гэта ў першую чаргу сумны юбілей нашае бяздзейнасці, абыякавасці ў адносінах да бяды, да праблемаў людзей, што і сёння вымушаны жыць на забруджаных тэрыторыях.***

Год таму на Валожыншчыне забруджанымі прызналі 102 вёскі. Цяпер іх 66.

"Чысцільшчыкі" з Мінска клапоцяцца перш за ўсё пра рэспубліканскі бюджэт, а не пра людзей, якія пакутуюць ад радыяцыі на "ачышчанай" тэрыторыі. Складаная сітуацыя на землях Пяршайскага сельсавета. Найбольш забруджаныя месцы– вёска Сівіца, калгас "Світанак".

Штогод прымаецца раённая праграма па "ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС".

Летась рэспублікай выдзелена і раёнам поўнасцю асвоена дзесяць мільярдаў рублёў. Сёлета плануецца Валожыну даць толькі тры мільярды.

*Аддзел інфармацыі.*

## "Рэгіянальнай" - год

***28 красавіка— год нашай газеце. Немаўля, якое нарадзілася леташняй вясной, выжыла і будзе жыць!***

Выданне задумвалася як повязь паміж жыхарамі не самага горшага краю ў нашай дзяржаве. А для нас, тых, хто тут нарадзіўся і жыве,– найлепшага краю Беларусі. І задума стваральнікаў "РГ" увасоблена.

У тым, што "Рэгіянальную" ведаюць ад Ашмянаў да Мядзела, заслуга не столькі рэдакцыі, колькі яе памочнікаў – журналістаў-раёншчыкаў, работнікаў міліцыі і банкаў, друкарні "Перамога", падатковай інспекцыі і выканкомаў, рэкламных агентаў, паштавікоў, "Белдруку"- тых, хто дапамагае справай, дапамагае словам, дапамагае інфармацыяй.

Радасна. Сумна толькі ад таго, што наша невялічкае свята амаль супадае з жалобным юбілеем Чарнобыля.

Але давайце жыць. Іншай жа радзімы не знайсці. І часцей сустракацца. На старонках "РГ" таксама. У нашых планах паступовы пераход на большы аб'ём выдання, паляпшэнне яго якасці. Адно застаецца нязменным– вернасць праўдзе і чытачам. За якіх і ўзнімаем свой келіх.

*Рэдакцыя.*

## Адным абзацам

Прыйшла Радаўніца– свята, якое знайшло сваё адраджэнне ў сэрцы кожнага праваслаўнага беларуса. У гэты дзень шмат людзей прыйшлі на могілкі да сваіх родных, адбыўся малебен і ўшанаванне памяці.

***

На валютным рынку працягваецца зацішша– курс продажу долара 13100, але купіць "зялёны" цяжка: наяўнай валюты ў банках няма, што купляецца– тое ж і прадаецца. На валютнай біржы долар паступова рухаецца да граніц валютнага калідора, магчымасці Нацыянальнага банка ўтрымаць курс змяншаюцца з кожнымі таргамі. І амаль ніхто не можа спрагназаваць, што будзе далей.

***

Да 10-годдзя Чарнобыльскай трагедыі ў нашай краіне прайшоў шэраг мерапрыемстваў. Не засталося ўбаку ад гэтага і Маладзечна. 16 красавіка ў Мінскім дзяржаўным тэатры музкамедыі адбыўся канцэрт сімфанічнага аркестра горада пад кіраўніцтвам Р. Сарокі, прысвечаны гэтай трагічнай даце. У канцэрце прынялі ўдзел салісты вядомых мінскіх тэатраў.

***

Нельга пакінуць па-за ўвагай падзею нашай гісторыі, якая яшчэ ў недалёкія часы адзначалася ўсенародна,– 22 красавіка, дзень нараджэння У. Леніна, правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі. У Маладзечне да помніка тэарэтыку камунізму ўдзячнымі аднадумцамі былі ўскладзены кветкі.

***

Дні нараджэння ў гэтыя дні адзначаюць і землякі. 29 красавіка – 75-годдзе знакамітага маладзечанца– гісторыка, крытыка, літаратуразнаўцы Мікалая Ермаловіча.

***

Як стала вядома, мяркуецца выдаць у хуткім часе кнігу пра Маладзечна на беларускай і англійскай мовах. Зборам матэрыялаў займаецца камісія гарвыканкома. Застаецца спадзявацца, што новая кніга стане цудоўным падарункам чытачам, якія цікавяцца гісторыяй і сучаснасцю роднага краю.

***

У жыхароў Маладзечна з'явілася нечаканая магчымасць паскардзіцца на свае праблемы высокай уладзе– горад наведала камісія службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта. Мабыць, не апошняя.

*Аддзел інфармацыі.*

## Навіны рэгіёна

### Нашага палку прыбыло

***СМАРГОНЬ. Тут выйшлі першыя нумары рэкламна-інфармацыйнай "Новай газеты".***

Праграміст Рамуальд Улан, яго жонка Наталля, філолаг па адукацыі, робяць газету ад альфы да амегі– збіраюць інфармацыю, рэкламу, бясплатныя аб'явы, набіраюць, вярстаюць і друкуюць "НГ". І хаця тыраж трэцяга нумара ўсяго 250 экз., выдаўцы вераць у поспех– першы выйшаў накладам у 130 асобнікаў. Рост амаль у два разы. Дапамагае газеце кіраўнік ФАКБ "Пріорбанк" Анатоль Янец.

*Аддзел інфармацыі.*

### У Ашмянах гандлююць толькі свае

### Кошт месца на рынку ў

**Ашмянах** 12 тыс. для сваіх, іншагароднім гандаль забараняецца.

**Астраўцы** для ўсіх па 10 тыс.

**Валожыне** з прапіскай і без яе 25 тыс. для прадпрымальнікаў за 1 кв. м.;

3-5 тыс. продаж мяса, яек;

25 тыс. продаж з палаткі;

30 тыс. з легкавой машыны;

55 тыс. з грузавой;

1 тыс. за кг мяса.

**Вілейцы** 20 тыс., для іншагародніх– 60 тыс.

**Смаргоні** (калгасны рынак) 12 тыс. для ўсіх;

7 тыс.– без месца;

15 тыс.– продаж з легкавой машыны;

50 тыс. з грузавой.

**Мядзеле** для ўсіх 1 тыс. продаж прадуктаў, 3 тыс.– семак;

10 тыс.– 1 кв. м для прадпрымальнікаў.

**Маладзечне** для ўсіх

8 тыс. прадукты;

17 тыс. прамысловыя тавары;

8 тыс. продаж з легкавой машыны;

17 тыс. з грузавой;

67 тыс. гандаль ад магазінаў, прадпрыемстваў;

13 тыс. продаж парасят;

8 тыс. семак.

У маі, магчыма, расцэнкі, будуць зменены.

*Аддзел інфармацыі.*

### "Коні" і "сланы" знайшлі дах

***Шыкоўны падарунак атрымае на свой юбілей Вілейскі клуб аматараў шахматаў— мясцовыя ўлады вярнулі яму былое памяшканне.***

Дваццаць гадоў шахматысты збіраліся ў кабінетах СПТВ, дзе выкладчыкам працуе кіраўнік Аляксей Гатоўка. Пад дахам, адкуль аднойчы папрасілі.

Садзейнічалі прапісцы станоўчыя выступленні каманды ў турнірах. Павіншаваў юбіляраў дэпутат ВС Уладзімір Варашнін, які паабяцаў матэрыяльную падтрымку.

*Аддзел інфармацыі.*

### Трубы ад "Рамаса"

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Першы трубны завод "Рамас", што ў Беразінскім, мае "дзіцячы" ўзрост, штат у 10 чалавек (у асноўным 25-гадовых), але яго прадукцыю— электрагазавыя трубы— ведаюць па ўсёй краіне.***

У цяперашні час на заводзе ідзе практычная дапрацоўка вытворчых працэсаў і абсталявання. Металапракат– справа працаёмкая, таму плануецца павелічэнне штатаў да 15-25 чалавек. На заводзе ЖБВ у Маладзечне будуецца Другі трубны завод.

Якасныя трубы патрэбны газамантажнікам, аграпрамкамбінатам, камунальным службам. Рэкламацый ад карыстальнікаў пакуль не паступала. "Бацькамі" вытворчасці труб на Маладзечаншчыне выступаюць ТБЗ "Беразінскі" і фінансавая група "Рамас".

*Аддзел інфармацыі.*

## Для тых, хто верыць Месяцу

# Месяцавы каляндар на май

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Панядзелак<br><br>Мес.дзень | | 6<br>24.00<br>20 | 13<br>3.40<br>26 | 20<br>7.36<br>4 | 27<br>14.47<br>11 |
| Аўторак<br><br>Мес.дзень | | 7<br>--<br>20 | 14<br>4.06<br>27 | 21<br>8.29<br>5 | 28<br>15.57<br>12 |
| Серада<br><br>Мес.дзень | 1<br>18.19<br>15 | 8<br>1.03<br>21 | 15<br>4.31<br>28 | 22<br>9.25<br>6 | 29<br>17.09<br>13 |
| Чацвер<br><br>Мес.дзень | 2<br>19.34<br>16 | 9<br>1.46<br>22 | 16<br>4.59<br>29 | 23<br>10.26<br>7 | 30<br>18.24<br>14 |
| Пятніца<br><br>Мес.дзень | 3<br>20.48<br>17 | 10<br>2.20<br>23 | 17<br>5.30<br>16.29<br>30; 1 | 24<br>11.28<br>8 | 31<br>19.39<br>15 |
| Субота<br><br>Мес.дзень | 4<br>22.02<br>18 | 11<br>2.50<br>24 | 18<br>6.06<br>2 | 25<br>12.34<br>9 | |
| Нядзеля<br><br>Мес.дзень | 5<br>23709<br>19 | 12<br>3.15<br>25 | 19<br>6.49<br>3 | 26<br>13.39<br>10 | |
| Дата | | 3 мая | 10 мая | 17 мая | 25 мая |
| ФАЗЫ Месяца | | 3 чвэрць поўня | 4 чвэрць | 1 чвэрць маладзік | 2 чвэрць |

Усход Месяца— для Маладзечна

**Крытычныя месяцавыя дні**— 9, 15, 19, 23, 29— патрабуюць перасцярогі і абароны.

**Спрыяльныя месяцавыя дні**— 6, 10, 12, 17, 30— даюць добрую энергію і падтрымку светлымі сіламі.

### Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 2 | 4 | 6 | 8 | 11 | 13 | 15 | 17 | 20 | 22 | 25 | 27 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ | ♉ | ⌘ | ♋ | ♌ | ♍ | ♎ | ♏ |

## Аб зацьменнях

Нядаўна на Паўднёвым Урале выяўлены комплекс старажытных збудаванняў, якія атрымаў назву Акраім. Ён практычна недаследаваны, але можна дапусціць, што яго ўзрост і прызначэнне такія ж, як у Стоўнхенджа. Да таго ж, яны пяжаць на адной шыраце.

Акраім па форме— дакладная копія Задыяка, напамінае вялізны гараскоп, пабудаваны на Зямлі. У структуры яго— знакі Задыяка і 28 дзяленняў— месяцавых стаянак. У ім закадзіравана інфармацыя аб пачатку эпохі Вадалея, якая не за гарамі.

Месяц, асветлены Сонцам, адкідвае ў прастору конус, які сыходзіцца, і вакол яго— конус паўцені, які разыходзіцца.

Калі месяцовыя цень і паўцень падаюць на зямную паверхню, то можна бачыць поўнае сонечнае зацьменне— Месяц поўнасцю закрые сонечны дыск.

У гэтым выпадку сонечную карону відаць як гало вакол Месяца, апускаецца змрок, на пацямнелым небе з'яўляюцца яркія зоркі і планеты. Прырода замірае.

Назіральнік, які трапіў у паўцень, выявіць, што Месяц закрыў толькі частку сонечнага дыска, адбываецца частковае зацьменне Сонца.

Ступень пакрыцця Сонца Месяцам называецца фазай сонечнага зацьмення, яна залежыць ад узаемнага размяшчэння Зямлі, Сонца і Месяца.

Цень Месяца ў час зацьмення рухаецца з захада на ўсход з хуткасцю прыкладна 0,6 км/сек. Таму пры максімальна магчымай фазе і дыяметры цені ад 270 км працягласць зацьмення ў адной кропцы на зямной паверхні можа дасягаць 7 хвілін 31 сек.

След ценю на зямной паверхні называецца паласой зацьмення. Часцей за ўсё яна мае шырыню каля 100 км, а паўцень дасягае 7000 км.

Перыядычнасць у механіцы сонечных зацьменняў складае 6585,3 сутак з хібнасцю менш за 12 гадзін. Гэты перыяд у 18 год і 11,3 сутак вядомы з даўніх часоў і пазней названы САРАСАМ. Два зацьменні, раздзеленыя САРАСАМ, маюць вельмі падобныя характарыстыкі. Трэць сутак сумяшчае палосы зацьменняў кожны раз на 120 градусаў на захад, затое праз тры САРАСЫ, або 54 гады 34 дні зацьменні паўтараюцца ў тым жа геаграфічным рэгіёне.

Выяўлена, што пры месяцавым зацьменні ўплыў праяўляецца амаль адразу, але пры сонечным найбольшае ўздзеянне выяўлялася звычайна праз некалькі месяцаў, прычым сіла ўздзеяння кожнага зацьмення прапарцыянальная яго велічыні. Іншымі словамі, чым больш поўнае зацьменне, тым мацней яно ўплывае на Зямлю і яе жыхароў.

Францыск Скарына нарадзіўся 11 сакавіка 1476 года ў сонечнае зацьменне. Дэшыфроўка ініцыялаў і партрэта, у якіх ён закадзіраваў свой гараскоп, дапамаглі ўдакладніць асобныя гістарычныя факты, ролю "гібелі сонца ў яго жыцці".

Прэзідэнт Аўраам Лінкольн быў смяротна паранены 14 красавіка 1865 года і памёр праз некалькі дзён. 11 красавіка 1865 г. адбылося месяцавае зацьменне, якое супала з яго натальным Марсам, а пазней, 19 кастрычніка 1865 года, адбылся сонечнае зацьменне.

Сонечнае зацьменне 20 ліпеня 1963 года супала з натальным Сатурнам Джона Ф. Кенадзі, а праз чатыры месяцы, 22 лістапада, ён быў забіты.

Гэты рад можна працягваць.

*Іван ШУБЦІК, Маладзечна*

## Чарнобыля сумны юбілей

# "Падарунак" чарнобыльцам

***ІВЯНЕЦ. Падобна, што ў апошні раз адпачываюць зараз па бясплатных чарнобыльскіх пуцёўках у дзіцячым санаторыі 106 навучэнцаў Івянецкай сярэдняй школы.***

Пад пагрозай зрыву знаходзіцца запланаванае ў красавіку аздараўленне (таксама за дзяржаўны кошт) выхаванцаў дзіцячых садкоў з таго ж Івянца і вёскі Подбераззь. Справа ў тым, што на падставе не даведзеных пакуль да шырокіх слаёў грамадскасці вынікаў апошніх даследаванняў, палова з дзесяці школ і чатыры дзіцячыя садкі выключаны са спісаў установ, што знаходзяцца ў зоне радыяцыйнага забруджвання. Цяпер ранейшыя льготы па харчаванню і аздараўленню замест 2330 будуць распаўсюджвацца толькі на 971 дзіця ў Валожынскім раёне. Гавораць, што ў адпаведнасці з новымі навуковымі падыходамі цяпер падлічваецца сумарнае назапашванне радыяцыі ў арганізме чалавека за год. Такім немудрагелістым чынам удалося ў адзін момант "ачысціць" ад нябачнага ворага 46 населеных пунктаў самага забруджанага радыяцыяй раёна Міншчыны. Горка і сумна, што гэты "падарунак" нашы заложнікі Чарнобыля атрымалі якраз напярэдадні сумнага юбілею атамнага выбуху.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

## Дзеці— наша старасць

# У нас школьнікі не галадаюць,—

***гаворыць Любоў Тарасава, намеснік загадчыка аддзела адукацыі Ашмянскага раёна.***

Мы змяшчалі матэрыял аб крытычнай сітуацыі, у якой апынуліся маладзечанскія школы-інтэрнаты рэспубліканскага падпарадкавання. З-за недахопу сродкаў амаль спынілася харчаванне дзяцей. Сёння адміністрацыя, выкарыстоўваючы свае асабістыя сувязі, закупляе некаторыя прадукты ў крэдыт. Як працуюць школы-інтэрнаты, што на мясцовым бюджэце?

Агульнаадукацыйнай школе-інтэрнату дзяцей-сірот Ашмяншчыны непасрэдна дапамагаюць усе прадпрыемствы раёна. У мясакамбіната ёсць свая падшэфная ўстанова, але сэрца цягнецца да пакрыўджаных лёсам дзяцей. Прадпрыемства бясплатна дае мяса, цукар, аплачвае паездкі. Не так даўно круглым сіротам ( а іх у школе дзевяць) купіла аўстрыйскі абутак.

162 навучэнцы школы харчуюцца чатыры разы на дзень, жывуць па тры, чатыры, восем чалавек у пакоі. 75 працэнтаў дзяцей з цяжкіх, мнагадзетных сямей. Дастаткова такіх, чые таты і мамы пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Ёсць дзеці, чые бацькі маюць багата грошай і мала часу для сваёй крывіначкі. Такія поўнасцю аплачваюць утрыманне ў школе.

Падтрымлівае школу і падсобная гаспадарка— на сваёй зямлі вырошчваецца садавіна, агародніна. У мясцовых бюджэтах заўсёды не хапае сродкаў. На Ашмяншчыне выключэнне— дзеці, якія набіраюць вагу, танцуюць, спяваюць і мараць аб сваім дарослым жыцці.

*ВасільСАВІЦКІ.*

## Бывае ж!

# Дзядзька маладзейшы за сваіх пляменнікаў: яму два гады, ім тры і дзевяць

***МАЛАДЗЕЧНА. Шаснаццацігадовыя таты і мамы грамадскасць ужо не здзіўляюць. А вось 55-гадовы былы міліцыянер трапіў бы ў мясцовую кнігу рэкордаў.***

Выйшаўшы на пенсію ў 53, хуценька паклапаціўся аб папаўненні сям'і. Старэйшаму яго сыну— 35, жыве ў Расіі, выхоўвае дачку, якой дзевяць. Дваццацічатырохгадовыя дачка, настаўніца, мае трохгадовага сына. Усе шчаслівыя і клапоцяцца аб двухгадовым малышу.

*Аддзел інфармацыі.*

## Крымінал

# Кілаграм алых руж. І не адзін

***АСТРАВЕЦ. Ад прадстаўніц слабага полу даводзіцца чуць: музейнай рэдкасцю становяцца сапраўдныя мужчыны, якія дзеля сваёй каханай змаглі б пайсці на любую рызыку. Ды што рызыка, калі на свята букет кветак каханая не ад кожнага дачакаецца. А вось мытнікам, якія неслі службу 6 сакавіка на пасту Катлоўка, прадставіўся процілеглы факт.***

У той дзень яны затрымалі аўтафургон жыхара Літвы В., які перавозіў праз мяжу без належных дакументаў 180 кг руж і 850 кг гваздзікоў. Далей кветкавая справа мела непрадказальнае развіццё. Паўстала пытанне рэалізацыі канфіскаваных кветак. Першай і апошняй інстанцыяй, на жаль, аказаўся мясцовы райспажыўсаюз. Але нават нягледзячы на нізкі кошт кветак (ружы па 7 тысяч, гваздзікі па 5 тысяч рублёў за штуку), там адмовіліся ад іх. І гэта якраз напярэдадні 8 сакавіка.

Цяпер даволі складана адказаць, ці то камерцыйнымі, ці то сапраўды любоўнымі памкненнямі кіраваўся той камерсант, але ён выкупіў кветкі, атрымаў дазвол на вываз за межы нашай рэспублікі і накіраваўся віншаваць сваю каханую з надыходзячым святам. Чым не джэнтльмен?

# Плакалі грошыкі

***У пачатку сакавіка праз мытны пост на ст. Гудагай праходзіў цягнік за №5. Накіроўваўся ён з Масквы ў Каўнас. Нічым асаблівым ад іншых, якія штодня праходзяць праз станцыю, звонку не адрозніваўся.***

Але пасажыры там ехалі даволі незвычайныя - пры грашах, і вельмі вялікіх. Гэта выявілася пры мытным аглядзе. У адным з вагонаў мытнікі звярнулі ўвагу на сямейную пару з Літвы Ш. Як высветлілася, яны схавалі амаль 39 тысяч долараў ЗША, якія выручылі ад рэаліцыі тавараў у белакаменнай, а ў дэкларацыі пра гэта не паведамілі. Вынікам паездкі для сямейнай пары стала канфіскацыя гэтых самых 39 тысяч долараў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Кантакты

# Дзеля грамадзянскай супольнасці

***15-16 красавіка ў Мінску прайшоў інфармацыйна-практычны семінар для беларускіх недзяржаўных арганізацый "Роля неўрадавых арганізацый у грамадстве: праблемы і перспектывы", наладжаны "Цэнтрам Супольнасць".***

Мэты семінару— завязаць гарызантальныя кантакты паміж арганізацыямі, абмеркаваць спосабы каардынацыі дзейнасці і магчымыя супольныя акцыі, наладзіць інфармацыйны абмен і міжнародныя кантакты.

Перад прысутнымі выступіла Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі ў Беларусі Джэсіка Пірс. Чынны ўдзел узялі польскія і брытанскія эксперты. Вострая дыскусія прайшла пры абмеркаванні ў групах тэмы: "Якія пазітыўныя крокі недзяржаўных арганізацый паспрыяюць стварэнню на Беларусі грамадзянскай супольнасці."

*Алесь КАПУЦКІ.*

## Усе мы смертныя

# Трупярні патрэбны фундатар

***МАЛАДЗЕЧНА. Паталагаанатамічнае аддзяленне (інакш— морг) знаходзіцца ў аднапавярховым цагляным будынку на тэрыторыі гарбальніцы. Спецыяльная рэспубліканская камісія прызнала памяшканні непрыгоднымі для эксплуатацыі, загадала з 1 кастрычніка павесіць на будынак замок, а ўсе даследаванні праводзіць у Мінску, Вілейцы, Валожыне.***

Але аддзяленне ў складзе трох урачоў і чатырох лабарантаў і сёння працуе ў антысанітарных умовах. Усе стаміліся гаварыць аб гэтым начальнікам у Мінску, адказным мясцовым работнікам. Каб пабудаваць новае аддзяленне, патрэбны сродкі, а іх няма ні там, ні тут.

Мясцовае аддзяленне— тры асноўныя памяшканні: лабараторыя, празектарская, жалобная зала. У патагісталагічнай лабараторыі ідзе апрацоўка прыжыццёвага матэрыялу. Напрыклад, хвораму, выразаюць апендыкс, частку страўніка. Тут іх даследуюць, што спрыяе дыягностыцы. У празектарскай зале анатаміруюць трупы тых, хто памер у лячэбных установах. Устанаўліваецца прычына смерці.

Невялікі пакойчык, два жалезныя сталы, на якіх у мінулым годзе ляжала 800 "пацыентаў".

–Да нас часцей трапляюць хворыя на сэрца,– гаворыць дзяжурны ўрач,– значна памаладзелі інфаркты (анатаміраваў 29-гадовага мужчыну), язвы страўніка. Усяго за мінулы год працаваў з 92 трупамі.

Уразіла жалобная зала— пакой 5х3 метры. Тры каталкі. Адсутнасць маразільнікаў, элементарнай вентыляцыі. Выцяжка ёсць, але ўключаць яе небяспечна. У сцяне замаскіравана расколіна і ад вібрацыі можа разваліцца кладка. Зімой яшчэ больш-менш. А летам пакуты— не прадыхнуць. Каталак не хапае, таму трупы кладуць на падлогу.

У аддзяленні працуе і судовая экспертыза. Знайшлі ў лесе труп, які ўжо расклаўся, сюды яго, у жалобную залу. Бывае, людзі прыязджаюць за родным ці сваяком— сорамна, што апранаць прыходзіцца ў такіх умовах, сярод згніўшых частак цела. Ды і два сталы на дзве службы— нязручна, ґаўкатня.

Паталагаанатамічная служба неабходна. Але адсутнічае матэрыяльная база, не вырашаюцца бытавыя пытанні медперсаналу, невялікія заробкі. Урач Скрыпко з жонкай, шасцігадовым сынам жыве ў пакойчыку інтэрната. Хто яму калі дасць у горадзе кватэру, калі аддзяленне падпарадкоўваецца Мінску? Дома чатыры сцяны і на рабоце кабінецік— былое тэхнічнае памяшканне (маторная). Ґрашовая стаўка паталагаанатама меншая, чым у хірурга. А на яе трэба ў год зрабіць 200 анатаміраванняў, 4 тысячы біяпсій (даследавання тканак). Трэба яшчэ ўлічваць, што паталагаанатамы ў першай групе рызыкі. Анатаміраваў інфіцыраваны труп, не дай бог, парэзаўся, можаш адразу побач класціся.

–Трэба шукаць фундатара, так больш працаваць нельга,–гавораць работнікі аддзялення,– камерсанты ўкладаюць грошы ў фестывалі, фінансуюць розныя падазроныя акцыі. Хай лепш пакінуць аб сабе доўгую памяць— пабудуюць морг. Усе мы смертныя, некалі і самі пакарыстаюцца.

*Васіль САВІЦКІ.*

